# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 6 (2252) 6 лютага 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.


*ІНТЭРВ'Ю Ў МАЙСТЭРНІ МАСТАКА*

*НАПЯРЭДАДНІ ЮБІЛЕЮ*

## «ЯНЫ ДАРМА ПАВЕРЫЛІ Ў КАЗКУ...»

Ён мае імя і мае вялікі талент. На сённяшні дзень гэта адна з самых прыкметных фігур у беларускім мастацтве і стаіць нейк адасоблена ад усіх. Адны яму зайздросцяць, другія пакланяюцца. Серыя карцін Міхаіла Савіцкага «Лічбы на сэрцы», якая расказала ўсяму свету пра жахі гітлераўскіх канцлагераў і барацьбу высокай чалавечнасці з фашызмам, стала з'явай не толькі нацыянальнай культуры. Апошняя па часе работа — серыя «Чорная быль» па сіле свайго мастацкага ўздзеяння і глыбіні асэнсавання трагічнай для Беларусі аварыі на атамнай станцыі ў 1986 годзе не саступае папярэдняй.

Працаздольнасць гэтага чалавека проста неверагодная. Ён штодня а восьмай раніцы ўжо ў майстэрні. Для яго не існуе ні выхадных, ні святаў. Падпарадкоўваецца толькі біярытмам натхнення.

Многія нашы суайчыннікі знаёмыя з Міхаілам Савіцкім асабіста, бывалі ў яго майстэрні. Доўгія гады мастак узначальваў прэзідыум Беларускага таварыства «Радзіма», спрыяючы наладжванню кантактаў з беларускай эміграцыяй па ўсім свеце.

Пра вядомага мастака, акадэміка напісаны дзесяткі кніг, манаграфій і артыкулаў, напэўна, да яго творчасці яшчэ неаднойчы звернуцца мастацтвазнаўцы і даследчыкі культуры, спрабуючы разабрацца ў перыпетыях нядаўняй нашай гісторыі, савецкага перыяду «развіцця».

Сёлета ў лютым Міхаілу Савіцкаму — 70. Напярэдадні юбілею мы пабывалі ў яго майстэрні, дзе за апошні час з'явілася многа новых цікавых работ.

**— Міхаіл Андрэевіч, які лёс серыі «Чорная быль»! Дзе яна дэманстравалася!**

— Па праву акадэміка я змог паказаць яе ў Маскве ў Акадэміі мастацтваў Саюза. Там мне прысудзілі за яе Залаты медаль. І з пашанай вярнулі карціны ў Беларусь. У Мінску я паказаў яе зусім нядаўна, не без цяжкасцей. Дзіўна? Абсалютна характар карцін відавочны, і гэта, я думаю, вельмі раздражняла тых шметлікіх чыноўнікаў, якія мелі адносіны да прыхавання ад народа праўдзівей інфармацыі аб трагедыі, якія падпісвалі загады збіраць ураджай з забруджаных земляў. Усе яны і цяпер пры ўладзе, нягледзячы ні на што. І ім ніякай справы да таго, што пакутуюць і паміраюць бязвінныя дзеці. Гэтым людзям зручна ўсё спісаць на сістэму.

**— Вы паставілі для сябе кропку на гэтай тэме!**

— Што вы?! Чарнобыль увесь час у душы... Вось зусім новая работа «Запаветная зона». Бачыце, фігуркі з крыльцамі анёлаў лятаюць над пустымі, пакінутымі дамамі... Тут яны нарадзіліся, тут гулялі з сябрамі, і сюды пасля смерці прыляцелі іх душы. Думка такая: дзе б нас ні пахавалі, а дзяцінства наша застаецца там, дзе яно прайшло, адтуль яно ніколі не адыходзіць. Душы абавязкова вяртаюцца ў месцы, дзе прайшлі самыя светлыя дні чалавека.

(Заканчэнне на 6-й стар.).



НА ЗДЫМКУ: М. САВІЦКІ. «Беларусачка».

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ

**Раней такія «карцінкі з жыцця» ў савецкую прэсу пастаўляліся толькі адтуль — з Захаду, дзе ў агоніі канаў і ніяк не мог сканаць капіталізм. Бяздомныя, вулічныя мастакі і музыканты, чэргі беспрацоўных на біржы працы ці за дармовым абедам у дабрачыннай сталоўку.**

**Цяпер няма патрэбы шукаць такія сюжэты ў Амерыцы ці Еўропе. Мы іх маем самі ў сваёй дзяржаве. У вялікім выбары. Такім стала наша жыццё. Гаротнае жыццё. Гэта не значыць, што адмоўных з'яў у нас не было і раней. Было больш чым дастаткова. Але пра гэта не гаварылі ўслых і не паказвалі на ўвесь свет — у краіне «развітога сацыялізму» такіх «плям» не павінна быць. Гэта не значыць, што і сёння ў плыні нашага пастперабудовачнага жыцця адна каламуць. Не, ёсць жа і нешта светлае. Але сёння нас больш дапякаюць сацыяльныя язвы. І мы паказваем жыццё такім, якое яно ёсць.**

**НА ЗДЫМКУ: сляпы музыкант на Камароўскім рынку ў Мінску.**



ПІСЬМО Ў ААН

## ПРОСЬБА АБ ДАПАМОЗЕ

Урад Рэспублікі Беларусь звярнуўся да адміністратара Праграмы развіцця ААН (ПРААН) з просьбай аб уключэнні яе ў лік атрымальнікаў дапамогі ў мэтах развіцця.

У пісьме, якое распаўсюджана ў штаб-кватэры Супольніцтва нацый у якасці афіцыйнага дакумента спецыяльнай сесіі Савета кіраўнікоў ПРААН, указваецца, што пераход да новага тыпу эканамічных адносін і дэмакратычнага ладу грамадства ў Рэспубліцы Беларусь адбываецца ў абстаноўцы сур'ёзнага эканамічнага крызісу, выкліканага стратай кіруемасці і парушэннем існуючых сувязей у народнагаспадарчым комплексе на тэрыторыі былога Савецкага Саюза.

Сітуацыя ўскладняецца тым, што працэсы пераходу ідуць на фоне ўзрастаючай нацыянальнай трагедыі, гаворыцца далей у дакуменце. Прычынай яе стала найбуйнейшая ў сусветнай гісторыі аварыя на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі ў красавіку 1986 года.

Без дапамогі сусветнага супольніцтва задачы эканамічнага і дэмакратычнага абнаўлення ў Беларусі не могуць быць вырашаны ў адносна кароткі час эфектыўна і беспаваротна, падкрэсліваецца ў пісьме.

РЭЛІГІЙНА-АСВЕТНІЦКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ

## ПРАВАСЛАЎНАЕ БРАЦТВА

Створаны арганізацыйны камітэт Беларускага праваслаўнага брацтва. Асноўная мэта—адрадзіць беларускі нацыянальны дух у царкве і стварыць нацыянальную праваслаўную царкву.

Галоўныя напрамкі дзейнасці Беларускага праваслаўнага брацтва бачацца членам яго аргкамітэта такімі: асвета, выданне рэлігійнай беларускамоўнай літаратуры, міласэрнасць, вяртанне традыцый беларускай духоўнай музыкі, іканапісу, храмабудаўніцтва.

СКАНДАЛЬНАЯ ХРОНІКА

## ДЛЯ ПАРТЫЙНАЙ ЭЛІТЫ

Набірае розгаласу скандал вакол Мінскага аблвыканкома. Справа павярнулася такім чынам, што аблвыканком, відаць, у поўным саставе вымушаны будзе пайсці ў адстаўку. А пачался ўсё з таго, што пры праверцы расходавання грашовых сродкаў, праведзенай часовай камісіяй па льготах і прывілеях Мінскага аблсавета, высветліліся цікавыя факты. Больш за 35 тысяч рублёў з фонду «непрадбачаныя расходы» бюджэту абласнога выканаўчага камітэта зрасходавана на замежныя паездкі вядомых у нядаўнім мінулым функцыянераў КПБ: Каратчэні, Чыкіна, Малафеева. Бычака і іншых.

Акрамя таго, па распараджэнню старшыні Мінскага аблвыканкома А. Цішкевіча ў 1990—1991 гадах размеркавана каля 200 легкавых аўтамабіляў, прычым ільвіная доля іх дасталася кіраўнікам аблвыканкома, абкома і гаркомаў КПБ, гарадскіх і раённых выканкомаў.

Пры праверцы сталовай аблвыканкома камісія высветліла, што там пастаянна прадаваліся востраддэфіцытныя прадукты (натуральны кофе, печань траскі, шпроты, вяндліна, тушонка, мясныя паштэты, сасіскі, цукеркі, апельсіны і г. д.). Гэтыя прадуктовыя тавары прадаваліся без нацэнкі, што прывяло да недаатрымання сталовай амаль 19 тысяч рублёў. Як правіла, вострадэфіцытныя прадукты адпускаліся вузкаму колу асоб.

Акрамя таго, камісіяй правераны пансіянат «Багут» за 20 кіламетраў ад Мінска. Ён круглы год скарыстоўваўся кіруючымі работнікамі аблвыканкома і былога абкома КПБ як месца адпачынку іх сямей, гаворыцца ў матэрыялах праверкі. Плата за пражыванне ў ім і паслугі была сімвалічнай, тады як штогадовыя страты ад утрымання пансіяната складалі каля 40 тысяч рублёў...

ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ ПРАБЛЕМЫ

## РАСІЯ ДАПАМОЖА

Для вырашэння чарнобыльскай праблемы патрабуюцца велізарныя затраты. Раней яны пакрываліся ў асноўным за кошт саюзнага бюджэту. Цяпер жа сітуацыя змянілася карэнным чынам.

Толькі ў гэтым годзе з улікам новых цэн на «чарнобыльскія» мэты неабходна выдзеліць 16,4 мільярда рублёў. Саюза, які абяцаў усё ўзваліць на свае плечы, больш няма, а самой рэспубліцы знайсці такія сродкі цяжка.

На дапамогу прыйшла Расія. Нядаўна ў Маскве паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй падпісана пагадненне аб аб'ёмах і парадку фінансавання ў 1992 годзе расходаў на ліквідацыю вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Прынята рашэнне стварыць спецыяльны фонд для пакрыцця затрат на выкананне мерапрыемстваў, прадугледжаных Дзяржаўнай праграмай неадкладных мер па пераадоленню вынікаў аварыі на 1990—1992 гады, праграмай «Дзеці Чарнобыля», а таксама Законам «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых у выніку чарнобыльскай катастрофы».

БЕЛАРУСЬ—ЗША

## МАСТЫ НАЛАДЖВАЮЦЦА

Мінск наведаў афіцыйны прадстаўнік амерыканскай адміністрацыі—Барталам'ю. Ён сустрэўся са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам. Размова датычылася ў асноўным выканання дагавора па СНУ—стратэгічных наступальных узбраеннях, а таксама экспарту ў Беларусь найноўшых тэхналогій і абсталявання.

Барталам'ю запэўніў, што Штаты не разглядаюць Беларусь у якасці нейкай другараднай дзяржавы, у тым ліку і ў плане разбраення. Дыялогам засталіся задаволены абодва бакі.

Плануецца таксама ў бліжэйшы час наладзіць больш цесныя палітычныя, эканамічныя і іншыя сувязі паміж ЗША і Беларуссю.

АПЫТАННІ

## ДЗЕ НАС НЕ ЛЮБЯЦЬ?

Амерыканскі «Таймс мірор сентр» надрукаваў даныя апытання, праведзенага ў дванаццаці еўрапейскіх краінах, аб нянавісці па расавай і этнічнай глебе.

Цікавае становішча з беларусамі. І тут лідзіруе Польшча, дзе 19 працэнтаў апытаных недалюбліваюць беларусаў. На Украіне нядобрыя пачуцці да нас зведваюць толькі 14 працэнтаў апытаных. У астатніх краінах Еўропы (у тым ліку і ў Расіі) адносіны да беларусаў больш-менш станоўчыя.

РЫНАК ДЛЯ ІНТЭЛЕКТУАЛАЎ

## «КАМЕРЦЫЙНЫ ДОМ»

У Мінску паявілася новае акцыянернае таварыства «Камерцыйны дом новых тэхналогій і падрадных работ».

«Камерцыйны дом» —не што іншае, як першы спецыялізаваны рынак у рэспубліцы,—сказаў прэзідэнт акцыянернага таварыства Сяргей Лойка.—Прычым рынак для інтэлекту. Акцыянернае таварыства ўжо зарэгістравала камерцыйныя прадстаўніцтвы арганізацый, якія будуць гандляваць новымі навукова-тэхнічнымі распрацоўкамі, прапаноўваць уласныя свабодныя магутнасці. Але прыярытэтным напрамкам работы «Дома» будзе заключэнне дагавораў-падрадаў на выкананне будаўнічых работ ва ўсёй рэспубліцы.

Гаспадары бяруць на сябе таксама пошук тэхналогій і падрадных арганізацый для кліентаў. Акрамя таго, наяўнасць рэкламных каналаў у «Камерцыйнага дома» гарантуе і прадаўцам, і пакупнікам поспех у свеце бізнесу.

*«Калі пачынаеш гаварыць пра шпіянаж, людзі пярэчаць, маўляў, ворагаў у нас няма, толькі сябры. Вы думаеце, адкуль формула такая пайшла? Ад былога прэзідэнта краіны, ад яго найбліжэйшага паплечніка Шэварднадзе.*

*Пакуль мы такія лагодныя, дырэктар ЦРУ падкрэслівае адкрыта: мы, маўляў, сканцэнтруем такія сілы і павядзём так агентурную работу ў былым Саюзе, як ніколі раней.*

*Пад рознымі прычынамі (даследаванне вынікаў аварыі на ЧАЭС, знішчэнне ядзерных арсеналаў і г. д.) суправаджаюць нас пачынаюць працаваць сотні класных разведчыкаў.*

*Мы выдатна разумеем, што вучоныя розных краін дапамагаюць нам весці ліквідацыйныя работы. Але мы разумеем і другое, я са злосцю скажу: ператварылі зону адчужэння ў палігон для бясплатнай пастаўкі Захаду найкаштоўнейшай інфармацыі, зжатай на полі людскога гора. Мы паўстаём супраць гэтага катэгарычна. На жаль, нас не заўсёды разумеюць.*

*Ідзе адкрытая нахабная вярбоўка нашых грамадзян, такіх, як даволі вядомы Хобта з-пад Смаргоні. Той-сёй і сам ідзе за долары на кантакты. Мы маем даныя, што ў Беларусі ёсць такія асобы. У адносінах да некаторых рыхтуем жорсткую меру стрымання — арышты. Суд вызначыць іх лёс. Самае дзіўнае, што тое-сёе ўспрымае перадачу інфармацыі ледзь ці не як геройства, лічыць, што ўсё дазволена цяпер, усё накіравана, маўляў, не супраць дзяржавы, а на знішчэнне таталітарнай камуністычнай ідэалогіі закрытага грамадства. А ў наяўнасці — шкода рэспубліцы.*

*Журналісты часта пішуць, што КДБ сёння спрабуе сябе ратаваць, спецыяльна нагнятае шпіёнаманію. Вось тут і расхаладжваецца пільнасць насельніцтва, падмываецца патрыятызм, гордасць за сваю дзяржаву, нацыю, адказнасць за бяспеку існавання народа.*

*Гэта ж факт, што апошнім часам мы аддаём за рублі ўсё, што можам, разбазараваем дасягненні ў галіне навукі, прамысловасці. Што ж тут высакароднага?! У гэтых умовах супрацоўнікам дзяржбяспекі вельмі цяжка працаваць. Між тым пад Беларусь цяпер капае не толькі ЦРУ, разгортваюць шырокую дзейнасць і найбліжэйшыя суседзі з Усходняй Еўропы.*

*Больш таго, асабіста мяне вельмі непакоіць, як бы такая работа не разгарнулася між членамі СНД. Некаторыя факты ўжо ёсць».*

*(З інтэрв'ю старшыні КДБ Рэспублікі Беларусь Эдуарда ШЫРКОЎСКАГА газеце «Беларускі час»).*

СУМЕСНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА



**Сумеснае савецка-фінскае прадпрыемства «Сантабел» пачало дзейнічаць у сталіцы рэспублікі. Яго заснавальнікі — Мінскі завод шасцерань і фінская фірма «Сантасала». Новае прадпрыемства спецыялізуецца на вытворчасці высокадакладных зубчастых колаў да рэдуктараў для цэлюлозна-папяровай прамысловасці. У далейшым плануецца выраб рэдуктараў у зборы, іх мантаж, рамонт і абслугоўванне ў спажыўца.**

**Усяго ж на «Сантабелі» маркуецца наладзіць вытворчасць 13 назваў вырабаў. Ужо ў гэтым годзе сумеснае прадпрыемства, дзе працуе ўсяго 14 чалавек, выпусціць прадукцыі на суму каля 300 тысяч інвалютных рублёў.**

**НА ЗДЫМКУ: на ўчастку савецка-фінскага прадпрыемства на заводзе шасцерань. За работай аператар станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем Аляксандр КАРУНЦОЎ.**

ЛІБЕРАЛІЗАЦЫЯ

## ПАС ЗАЦЯГВАЕЦЦА ТУЖЭЙ

Пасля вымушанай так званай лібералізацыі цэн, уведзенай у Беларусі ўслед за Расіяй на пачатку студзеня, жыццё даражае з кожным днём. З 20 студзеня ў 3 разы павысіліся цэны на хлеб і хлеба-булачныя вырабы, на малако, тварог, сметану, сыры. Масла стала даражэй у 5 разоў. Цяпер кілаграм яго каштуе больш за 40 рублёў.

Цэны растуць на ўсё. Сёння зернеуборачны камбайн «Дон-1500» каштуе ўжо 560 тысяч рублёў замест 60 тысяч, наш трактар «МТЗ-82», цана якога летась была 10,5 тысячы рублёў, прадаецца за 110 тысяч, за ўгнаенні трэба выкладваць больш тысячы рублёў за тону, хаця яшчэ ўчора цана іх вагалася ад 50 да 160 рублёў.

Як прыдбаць тэхніку, угнаенні, запчасткі фермеру ці калгасу, калі цэны на іх падскочылі ў 10 разоў, а закупачныя цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю ўзраслі толькі ў 3—5 разоў?!

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

▲ Старшыні пяці вядомых у рэспубліцы калгасаў звярнуліся да ўрада Беларусі з прапановай: замест таго, каб набываць збожжа за валюту ў іншых краінах, купляць яго ў калгасаў. За тую ж цану ў валюце. Па 200—300 тон збожжа знойдзецца на продаж у кожнай гаспадаркі.

▲ Ініцыятыўная група, якая павінна заняцца зборам подпісаў пад зваротам аб недаверы Вярхоўнаму Савету, Савету Міністраў Беларусі і патрабаванні новых выбараў ужо налічвае больш 1 тысячы чалавек. Беларускія біржавікі, не задаволеныя падатковай палітыкай урада рэспублікі, ужо даюць грошы для ініцыятараў правядзення рэферэндума аб даверы.

▲ Прэзідэнт Акадэміі навук РБ Уладзімір Платонаў, які зараз чытае курс лекцый па матэматыцы ў ЗША, папрасіў звольніць яго з гэтай пасады. Ён хоча завяршыць кнігу, якая, на думку вучоных, складзе гонар беларускай навукі. Выконваючым абавязкі прэзідэнта акадэміі часова прызначаны Аляксандр Сцепаненка.

▲ Міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка прыняў прыватную асобу — Ганну Бартуль, дачку беларускіх эмігрантаў са Злучаных Штатаў Амерыкі. Г. Бартуль, якая ўжо неаднойчы была ў рэспубліцы, выйшла замуж за С. Сокалава-Воюша, вядомага барда з Наваполацка і мае намер пераехаць з Амерыкі ў Беларусь.

З НАГОДЫ АДНОЙ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# ЭСКАЛАЦЫЯ ДЭМАКРАТЫІ?

Усялякая дэмакратыя, відаць, мае адносную вартасць, нават самая дасканалая. Тое, што добра сёння, заўтра здаецца не такім добрым; што адпавядае адным пластам грамадства, не задавальняе іншыя. І гэта слушна, бо гармонія інтарэсаў—усяго толькі ідэал, мэта, накшталт таго колішняга камунізму, які бышцам і не за гарамі, але да якога можна ісці вечна, застаючыся на адным месцы.

Такія думкі, прынамсі, выклікала ў мяне адна прэс-канферэнцыя, на якую трапіў ледзь ці не выпадкова. Праводзілі яе былы наш супрацоўнік, а цяперашні старшыня грамадска-культурнага аб'яднання «Палессе» Мікола Шэляговіч, прэзідэнт Асацыяцыі яўрэйскіх арганізацый і таварыстваў Леанід Левін, старшыня Цэнтра нямецкай культуры ў Рэспубліцы Аляксандр Майснер ды намеснік старшыні галоўнага праўлення Саюза палякаў Беларусі Тадэвуш Малевіч. А сабралі яны нешматлікае кола журналістаў з той нагоды, што пашылі ўтварыць Асацыяцыю грамадскіх нацыянальных арганізацый Рэспублікі Беларусь.

Вось тут і пачуў я меркаванні, якія выклікалі супярэчлівыя думкі: што Закон аб мовах у Беларусі не адпавядае міжнародным прававым нормам, што яго трэба мяняць, пачынаючы з самой назвы. (А мы ім так ганарымся!). Тое ж самае стаўленне Асацыяцыі да законаў аб адукацыі і культуры. Маўляў, раней існавала бальшавіцкая ідэалогія, якая падаўляла ўсё іншае, акрамя рускага, а цяпер ёсць пагроза, што нацыянальная (беларуская) ідэалогія спрые развіццю адно толькі беларускай мовы і культуры. Усё ж астатняе можа апынуцца на другім плане, а значыць—пагроза для нацыянальных меншасцей.

Адкуль такія засцярогі? Беларускае адраджэнне засланіла сабой такія ж працэсы, што адбываюцца цяпер у асяроддзі іншых народаў і этнасаў Беларусі, і не бачыць іх праблем. «Мы яшчэ адстаем,—заявіў М. Шэляговіч,—рух наш недастаткова актыўны, не сфарміраваны. Мы б хацелі замацаваць свае правы заканадаўча». А палякі ў Беларусі, як сказаў Т. Малевіч, хацелі б, каб іх культурна-асветная работа мела міжнародна прававую аснову, г. зн. «не грамадскія арганізацыі нешта робяць, а дзяржава ім дапамагае,—дзяржава робіць для іх у моц сваіх абавязкаў перад нацыянальнымі меншасцямі». А грамадскія арганізацыі ўжо актыўна дапамагаюць праводзіць культурна-асветную работу ў рэчышчы вызначанага дзяржавай нацыянальнага працэсу.

Было між іншага згадана, як канкрэтна дапамагае польская дзяржава беларускай меншасці на Беласточчыне, і пра крыўды беларускіх палякаў на рэспубліканскія ўлады.

Што ж будзе рабіць новая асацыяцыя? Сярод першачарговых яе задач вызначаюцца дзве: 1) дамагацца прынядця Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь закона аб свабодным і раўнапраўным развіцці усіх этнасаў Беларусі, іх моў і культур; 2) прызнанне дзяржаўнымі мовамі нароўні з беларускай мовай заходнепалескай, польскай і рускай.

Здаецца, не толькі нацыянальным дзеячам, якія выпесцілі праграму беларускага адраджэння, але і палітыкам ды прававедам будзе над чым паламаць галаву. Асабліва, калі ўлічыць кволасць беларускай мовы як дзяржаўнай. І хоць ініцыятары аб'яднанняў у Асацыяцыю грамадскіх нацыянальных арганізацый усяляк падкрэслівалі, што яны змушаны зрабіць гэты крок не для таго, каб ваяваць з кімсьці, а каб адстойваць свае правы, думаю, іх дзеянні многія ўспрымуць як бунт сепаратыстаў.

Памятаю, яшчэ калі М. Шэляговіч гадоў дзевяць таму назад прапанаваў «Голасу Радзімы» свой артыкул пра «палескую рэмзу», у рэдакцыі выказвалі засцярогі, ці не вядзе яго апантанасць адметнасцю палескага дыялекту да расколу беларускай нацыі і ці не падарве канчаткова беларускую мову. У шматлікіх дыскусіях цяперашні старшыня «Палесся» клянуся, што ён не мае сепаратысцкіх намераў, а ўсяго толькі бачыць культурны працэс адраджэння заходнепалескай мовы, а што датычыць беларускай, то яна ў спаборніцтве з «рэмзай» толькі змацуецца і акрыяе.

Гатоў быў ужо пагадзіцца, каб не адна акалічнасць: памкненні М. Шэляговіча энергічна стаў падтрымліваць былы партыйны ідэолаг ЦК КПБ Савелій Паўлаў, які не надта шанаваў усё беларускае. Ці не быць гэта спроба, убіваючы клін разладу, падарваць нацыянальны рух?

Слухаючы інфармацыю, якую давалі кіраўнікі культурна-асветных аб'яднанняў нацыянальных меншасцей Беларусі, так і хацелася сказаць: «А што тут благога?» Сапраўды, у імкненні да свайго адраджэння ці не забыліся мы пра іншых—меншых і больш слабых, можа пакрыўджаных? І што гэта за дэмакратыя, калі мы бачым толькі сябе ў абсягу яе дзеяння?! Прыгадаем, як мы бічавалі тых жа ўзорна-дэмакратычных амерыканцаў за нягуманнае стаўленне да іх, індзейцаў ці пуэрта-рыканцаў... Калі мэта асацыяцыі — каардынацыя дзейнасці арганізацый нацыянальных меншасцей у імя ўзаемадапамогі, нацыянальнай згоды, раўнапраўя ўсіх народаў Беларусі, як было заяўлена ў дэкларацыі, кансалідацыя ў імя таго, каб беларусы ўбачылі, што сярод іх ёсць і іншыя, дык, бадай што, трэба вітаць яе ўзнікненне, прынамсі,—паставіцца талерантна.

Але мімаходзь прагучала на той жа прэс-канферэнцыі паведамленне, што ў Брэсце ўтвораны аргкамітэт па стварэнню Заходне-Палескай краявой партыі. Мэты яе ўжо не культурна-асветныя, а палітычныя: дамагацца аўтаноміі для Заходняга Палесся. І мне ружовыя мары грамадска-культурнага аб'яднання «Палессе» падаліся ўжо чорнай смугой новай партыі з сепаратысцкімі амбіцыямі. Тым больш, што было сказана: пачынаецца паралельны працэс—культурны і палітычны. Наіўна было б думаць, што два гэтыя працэсы не сальюцца ў адзін.

Сёння палешукі адасабляюцца, а заўтра хто?

У гэтым ракурсе інакшай бачыцца ўзнікненне Асацыяцыі грамадскіх нацыянальных арганізацый.

Вядома, добра было б, як выказаўся Т. Малевіч, каб мы жылі так, як некалі нашы продкі ў Вялікім княстве Літоўскім, дзе правы нацыянальных меншасцей былі абаронены ў вышэйшай ступені. Але для гэтага патрэбна развага, мудрасць і талерантнасць усіх членаў супольніцтва. Інакш згоды не будзе.

**Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

## СТВОРАНЫ ПАРТАТЫЎНЫ КАМП'ЮТЭР



**Памерам менш «за дыпламат» і вагой чатыры з паловай кілаграмы — такі першы айчынны партатыўны камп'ютэр ПК-300. Створаны ён на мінскім вытворчым аб'яднанні «Інтэграл» маладымі спецыялістамі СКБ «Нямiга». Навінка можа стаць добрым памочнікам інжынерна-тэхнічным, кіруючым работнікам, бізнесменам. Яе нескладана прыхапіць з сабой у дарогу, у адказную камандзіроўку. Сённяшняя цана камп'ютэра — 50 тысяч рублёў. На жаль, у параўнанні з першапачатковай яна вырасла ўдвая, таму што ў столькі ж павялічылася цана камплектуючых, якія атрымлівае аб'яднанне з-за межаў рэспублікі.**

**...Яшчэ некалькі гадоў назад аб'яднанне было шырока вядома толькі як вытворца папулярных гадзіннікаў «Электроніка». Уся астатняя прадукцыя не падлягала раскрыццю. Прадпрыемства працавала на абарону. Цяпер «Інтэграл» становіцца ўсё больш адкрытым. Першымі ў галіне тут стварылі службу маркетынга. Інтэнсіўна ідзе асваенне новых рынкаў за мяжой. Аб'яднанню ёсць што прапанаваць, а замежныя спецыялісты, якія зачасцілі апошнім часам на прадпрыемства, адзначаюць высокі ўзровень вытворчасці і распрацовак, што вядуцца тут. На «Інтэграле» асвоены выпуск шэрагу прыбораў для медыцыны і спорту, тэлефонаў-трубак. У перспектыве — выраб тэлефонных апаратаў з бясшнуравай трубкай. Створана элементная база для фотаапарата «Элікон». Сумесна з ПА «Гарызонт» рыхтуюцца да выпуску мікрасхемы для тэлевізараў пятага пакалення, якія да гэтага часу купляліся за мяжой. Дарэчы, «Інтэграл» — буйнейшы ў краіне вытворца мікрасхем. Узровень жа распрацовак і вытворчасці дазваляе выраблять любую з вядомых у свеце.**

**— Захаваць высокі інтэлектуальны патэнцыял ва ўмовах канверсіі — адна з асноўных задач прадпрыемства, — гаворыць дырэктар па маркетынгу Уладзімір ГАРАВОЙ.**

**НА ЗДЫМКУ: інжынер СКБ «Нямiга» Таццяна ДЗЕРАЧЭНІК з персанальным камп'ютэрам ПК-300.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ

## ДЫК З КІМ ЖА НАМ ТРЭБА БЫЛО ВАЯВАЦЬ?

Паважаная рэдакцыя!

Да 1971 года я быў пазаштатным карэспандэнтам газеты Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом «Голас Радзімы» і радыёстанцыі «Савецкая Беларусь». Чаму я пра гэта вам пішу? Атрымаў нядаўна газету «Голас Радзімы», убачыў партрэт Р. Шырмы і артыкул, прысвечаны 100-годдзю з дня яго нараджэння і ўспомніў, як ён мне ўручаў пасведчанне за № 065, што давала мне права быць пазаштатным карэспандэнтам газеты «Голас Радзімы». Так, гэта быў вялікі чалавек, я ведаў яго як артыста, вялікага песняра. Колькі разоў мне даводзілася бываць за мяжой: і дзе б я ні бываў, пра яго помнілі інтэлігентныя людзі і там. І, відаць, Таварыства па культурных сувязях не выпадкова выбрала яго сваім старшынёй.

Аднак вось што мне хацелася б падкрэсліць. Калі я атрымліваў пасведчанне, то запомніў такія словы Шырмы: «Радзіма—гэта векавое свяшчэннае разуменне, якім павінен даражыць кожны з нас. І трэба працаваць так, каб не запляміць сваю Радзіму». Калі я пісаў артыкулы, то яны былі не па заказу, не ад прытворнага жадання надрукавацца ў газеце, а ад душы, ад любові да Радзімы. Не ведаю, што ўплывае на вашых карэспандэнтаў: ці то змяніўся час, ці то мы стараем. Але я не знаходжу ў вашых асобных артыкулах **любові да Радзімы**. Канкрэтна. У артыкуле «Усё скача той рыцар на белым кані» вы расхвалілі былога здрадніка Радзімы. Я ведаю загадзя, што вы будзеце адстойваць свой пункт гледжання, аднак не магу я згадзіцца з выказваннем гэтага здрадніка Радзімы.

Так, трэба мець сувязь і з нашымі людзьмі за мяжой, хто пацярпеў ад сталіншчыны і няправільнай палітыкі, якую вялі нашы кіраўнікі. Але не са здраднікамі. Так, многа нашых людзей пацярпела ў палоне, але яны не былі халуямі фашыстаў. Яны не ваявалі супраць сваіх людзей. А калі ваш герой быў інтэлігентам, то няхай ён да канца свайго жыцця змагаўся б супраць ідэалогіі Сталіна, але не супраць свайго народа. Вось што гаворыць ваш герой: «Аднак раптам прыехалі прадстаўнікі нейкіх арганізацыяў выручаць з бяды братоў-беларусаў. Аб'явілі: «Хто хоча змагацца са Сталіным—тры крокі наперад».

Выйсця не было, ён вымушаны быў пайсці змагацца супраць Сталіна. А што, Гітлер ваяваў не з нашым народам, а толькі са сталінскай сістэмай? Па яго філасофіі гэта так. І ўсе здраднікі—паліцаі, уласаўцы таксама ваявалі, аказваецца, з той жа сістэмай, а не з роднай краінай. І, маўляў, сам ваш герой пайшоў на здраду як ідэйны барацьбіт супраць сталінізму. «Я быў самы звычайны савецкі чалавек,—гаварыў ён. А пайшоў ваяваць за ідэі! Калі ты быў звычайны савецкі чалавек, дык чаму ты не пайшоў у партызаны ці хаця б сядзеў у вёсцы і не паказваўся людзям? А такая магчымасць у яго была. І толькі пасля ён асудзіў фашызм. Адчуў перамогу!

Не, даражэнькія мае, такія артыкулы не пакідаюць добры след у свядомасці людзей. Мне здаецца, што ў нашай свядомасці адбываецца сёння вялікая сумятня, якая выклікае трагічныя вынікі, і змена панняццяў.

Думаючы пра ўчарашні дзень, мы як бы міжволі атаясамляем сапраўды вінаватую ў многіх грахах сістэму з вялікай Радзімай.

І калі ёсць здрадзе вашага героя нейкія змякчаючыя тлумачэнні, то як зразумець тых, хто ішоў на смерць будучы ў такім жа становішчы, як герой вашага расказа?

Яўна напрошваецца думка, што нам трэба было ваяваць не з Гітлерам, а з тагачаснай нашай сістэмай? Бо перамога жыве горш, чым пераможаны. Я згадзіўся б з гэтым артыкулам, калі б хоць нейкі быў каментарый рэдакцыі. Бо я так думаю, што і рэдакцыя не з усім згодная.

Не варта забываць, што злосць на ранейшую сістэму можа затушаваць вялікі подзвіг нашай Радзімы. Так, старая сістэма ўвайшла ва ўсе сферы нашага жыцця. Аднак Радзіма не адказвае за памылкі і злачынствы сваіх сыноў, яна не адказвае за любую сістэму, гэта мы адказваем за Радзіму.

Я прашу загадзя Вас прабачыць мне. Можа ў нейкай частцы свайго пісьма я быў рэзкім. Для Вашай газеты ёсць у нас многа людзей, якія змагаліся і са сталінізмам, і з фашызмам. І калі вы—голас Радзімы, то абараняйце яе, ачышчайце Радзіму ад сталінізму і тых скажэнняў, якія былі дапушчаны ім, але толькі не голасам здраднікаў.

Жадаю Вам поспеху на гэтай цяжкай ніве.

**А. ІЛЬЯШУК.**

г. Пружаны.

**АД РЭДАКЦЫІ: Мы не збіраемся каменціраваць ліст нашага чытача А. Ільяшука, хаця можна было б з ім і паспрачацца. Ён мае права на сваё меркаванне. Мы не робім з М. Кавыля (а менавіта пра яго гаворка ў лісце) героя, як і з нікога іншага. Час гераізацыі мінуў. Рэдакцыя можа быць не згодна з пазіцыяй таго, пра каго піша, ці каму прадастаўляе старонкі газеты, але яна не мае права навязваць каму б там ні было свой пункт гледжання. Паказваючы людзей такімі, якія яны ёсць, з іх думкамі і стаўленнем да пэўных праблем (падабаецца гэта нам ці не), мы толькі хочам сказаць чытачам: думайце і разважайце самі.**

## ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ

# ВЫЗВАЛЕННЕ ЦІ НЯВОЛЯ?

**У верасні 1991 года («Голас Радзімы», №№ 38, 39) былі надрукаваны два артыкулы Міколы Іванова пад агульнай назвай «Вызваленне ці вайна!». Прысвечаны яны былі важнай і балючай падзеі ў нашай гісторыі — так званаму вызваленню Заходняй Беларусі ў 1939 годзе і далучэнню яе да Беларусі Усходняй. Аўтар паставіў мэту паглядзець праўдзе ў вочы і адказаць шчыра на пытанне: што ж адбылося з намі ў 1939 годзе! Што гэта было: вызваленчы паход Чырвонай Арміі, каб ратаваць заходніх беларусаў, ці неаб'яўленая вайна з Польшчай, на якую напала фашысцкая Германія!**

**Сёння мы пачынаем друкаваць яшчэ некалькі артыкулаў гэтай серыі, у якой Мікола ІВАНОЎ аналізуе, што дало тое вызваленне беларускаму народу. Таму і назва артыкулаў гучыць крыху інакш—«Вызваленне ці няволя!».**

## 1939 ГОД — У НАШАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СВЯДОМАСЦІ

### III

19 верасня 1939 года раніцай, калі пасля неспакойнай, са стралянінай ночы жыхары Вільні абудзіліся і прыступілі да сваіх штодзённых спраў, паўсюдна на мурах дамоў і на афішных тумбах яны знайшлі расклеены першы савецкі дакумент. Быў гэта першы загад ваеннага каменданта Вільні. Гучаў ён коратка і знамянальна: «Сёньня а пятай гадзіне раніцы часці Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі ўвайшлі ў горад Вільню і вызвалілі яго ад польскай арміі. Ад гэтага часу ўся ўлада ў горадзе і ваколіцы належыць мне, ваеннаму каменданту горада». Подпіс: генерал Крывашэін.

За месяц да пачатку II сусветнай вайны ў Вільні ў сувязі з нармалізацыяй польска-літоўскіх адносін было адчынена Генеральнае консульства Літоўскай рэспублікі. Знаходзілася яно ў гатэлі «Святы Георг». Пасля ўваходу Чырвонай Арміі тут пасяліліся таксама высокага рангу афіцэры НКУС, у задачу якіх уваходзіла чыстка Вільні ад так званых антысавецкіх элементаў перад перадачай горада Літве. Паміж літоўскімі дыпламатамі і савецкімі чэкістамі, пастаяльцамі гатэля «Святы Георг», наладзіліся даволі прыязныя ўзаемаадносіны. Гэтая акалічнасць і дазваляе нам сёння аднавіць адну са старонак агульнай карціны падзей тых драматычных дзён.

В. Чачота, адказны работнік Літоўскага консульства, у сваіх выдадзеных на Захадзе ўспамінах прыгадвае: «Савецкія танкі з'явіліся на вуліцах Вільні раніцай 19 верасня, але іх галоўныя сілы ўвайшлі ў горад толькі на наступны дзень. Была ўведзена каменданцкая гадзіна, іншыя абмежаванні свабоды мясцовага насельніцтва. Консульства ў гэты час пачало атрымліваць сотні скарг мясцовых жыхароў на Чырвоную Армію. Яе салдаты пачалі рабаваць магазіны, затрымліваць віленчукоў і здымаць гадзіннікі з іх рук, а таксама папросту рабаваць на вуліцах выпадковых пешаходаў».

В. Чачота ўспамінае, што калі літоўскія дыпламаты спрабавалі паведамляць сваім савецкім суседзям аб фактах грабяжу, тыя з абурэннем абвяргалі падобныя факты. Стэрэатыпны адказ быў наступны: «Савецкі чырвоны салдат не можа быць бандытам». Рэальнасць жа была зусім іншай: на вуліцах будучай літоўскай сталіцы запанаваў сапраўдны бандыцкі тэрор і прымітыўнае грабежніцтва.

Савецкае камандаванне і афіцэры НКУС практычна не звярталі ўвагі на злачынныя паводзіны сваіх салдат. Ды і ці маглі яны звяртаць на гэта ўвагу. Яны мелі куды больш важнае і адказнае заданне: трэба было правесці прэвентыўную чыстку Вільні, ачысціць горад ад так званых антысавецкіх і нацыяналістычных элементаў.

У адрозненне ад іншых беларускіх зямель, акупаваных у верасні 1939 года Чырвонай Арміяй, Віленшчына мела свой вельмі своеасаблівы лёс. Першы перыяд савецкай акупацыі тут працягваўся амаль 40 дзён. Пазней Вільня была перададзена ў той час яшчэ незалежнай Літве, каб праз восем няпоўных месяцаў зноў апынуцца пад ботам савецкай акупацыі і савецкага тэрору.

Але гэты своеасаблівы лёс Вільні дазваляе нам сёння з прыблізнай дакладнасцю акрэсліць характар і маштабы чырвонага тэрору. Справа ў тым, што літоўскія ўлады пасля адыходу савецкіх войскаў даволі скрупулёзна падлічылі ўсіх тых віленчукоў, якіх здолеў заарыштаваць і вывезці з сабой НКУС. Літоўцы лічылі большасць рэпрэсіраваных сваімі (т. зв. паланізаванымі літоўцамі) і нават выступілі перад савецкімі ўладамі з просьбай аб вызваленні арыштаваных і вяртанні іх у Вільню.

Зразумела, што мы не маем доступу да нкусаўскіх дакументаў, якія б характарызавалі першую савецкую акупацыю Вільні, не ведаем мы і дакладных маштабаў тэрору паводле гэтых дакументаў. Але на дапамогу могуць прыйсці дакументы літоўскіх дыпламатычных службаў у Вільні. Літоўцы, на шчасце, даволі пільна сачылі за дзеяннямі савецкіх акупацыйных улад і пазней апісалі іх у адпаведных дакументах. Так, напрыклад, літоўскі Чырвоны Крыж зарэгістраваў каля 800 асоб, дэпартаваных з Вільні савецкімі акупацыйнымі войскамі. Сярод іх былі такія выдатныя асобы, як удава і дочкі маршала Пілсудскага, міністры польскага ўрада, вядучыя журналісты польскіх віленскіх газет і да т. п. Вельмі адчувальныя страты панесла беларускае віленскае грамадства. Былі арыштаваны і вывезены Антон Луцкевіч, Нікандр Грэпка, Уладзімір Самойла і інш.

У лютым 1940 года літоўскія ўлады перадалі савецкай адміністрацыі спіс 350 асоб, арыштаваных у Вільні і вывезеных у СССР. У гэтым спісе фігуравалі і беларускія імёны. На мемарандум за подпісам старшыні літоўскага Чырвонага Крыжа Зоф'і Сметанавай, жонкі тагачаснага прэзідэнта Літвы (з дому Хадкоўскай), літоўцы ніколі, аднак, не дачакаліся адказу. НКУС не толькі не меў намеру вызваляць раней арыштаваных, але рыхтаваў куды больш вялікія спісы «ворагаў» савецкай краіны, на якіх у хуткім часе павінны былі зваліцца новыя рэпрэсіі.

Сталінскія карныя органы, аддзелы НКУС, якія ўслед за часцямі Чырвонай Арміі ўвайшлі на тэрыторыю Заходняй Беларусі, мелі вялікі вопыт ажыццяўлення масавых рэпрэсій. Пры гэтым у адрозненне ад іншых таталітарнтых рэжымаў (напрыклад, фашызму) камуністы праводзілі масавы тэрор перадусім супраць свайго ўласнага грамадства, супраць рускіх, беларусаў, украінцаў, а не супраць іншапляменнікаў. (Супраць яўрэяў, як гэта было ў выпадку гітлерызму). Тэарэтычна класавы характар тэрору павінен быў забяспечыць і ў большасці выпадкаў забяспечваў вялікую колькасць добраахвотных памочнікаў у ажыццяўленні тэрору. Так было і ў Заходняй Беларусі. Адразу пасля ўваходу чырвоных войскаў недахопу ў калабарацыяністах не было.

Новыя ўлады, аднак, не вельмі спяшаліся з прыцягненнем да сваіх карных органаў мясцовых людзей. НКУСаўцы прынеслі з сабой пачуццё абвостранай падазронасці і недаверу. Паводле няпісаных правілаў гэтай чэкісцкай арганізацыі, кожны, хто хоць раз сутыкнуўся з ворагам, ужо быў пад падазрэннем. Што ж тут гаварыць пра тысячы заходнебеларускіх камуністаў. Даверу ім абсалютна ніякага не было.

Рэпрэсіі ў адносінах да заходнебеларускіх незалежніцкіх палітычных дзеячаў ажыццяўляліся органамі НКУС паводле загадзя падрыхтаванага плана. Цэнтральнай фігурай пры распрацоўцы гэтага плана быў Іван Фролавіч Клімаў, у той час 36-гадовы былы загадчык аддзела прапаганды ЦК КПБ. Аб маючым адбыцца хуткім «вызваленчым паходзе» ў Заходнюю Беларусь ён даведаўся яшчэ 11 верасня. На пасяджэнні ў гэтым дні ў ЦК КПБ вельмі вузкаму колу адказных партыйных працаўнікоў было паведамлена, што рыхтуецца паход на Захад і што неабходна падрыхтаваць спісы галоўных антысаветчыкаў усіх нацыянальнасцяў, якія пражывалі ў Заходняй Беларусі. У сувязі з гэтым Клімаў даручыў свайму сакратарыяту падрыхтаваць падрабязную даведку аб стане беларускага руху ў Польшчы. Даведка гэтая, як выявілася пазней, і стала галоўнай падставай для пазнейшых рэпрэсій на акупаваных тэрыторыях.

Аб усім гэтым і аб іншых цікавых рэчах, звязаных з першым перыядам савецкай акупацыі Заходняй Беларусі, Іван Клімаў апавядаў мне, будучы ўжо заслужаным персанальным пенсіянерам саюзнага значэння, у адзін з доўгіх зімовых вечароў у Менску. Сваёй дзейнасцю ў якасці галоўнага карніка заходнебеларускага руху Клімаў безумоўна ганарыўся. Паказваў ордэны, атрыманыя за ўдзел у вызваленчым паходзе, па-сапраўднаму смакаваў гісторыі, як яму ўдалося арыштаваць таго ці іншага заходнебеларускага дзеяча. Дагаворваўся нават да таго, што нацдэмаў (а ўсіх беларускіх дзеячаў ён называў не інакш, як нацдэмамі) ён адрозніваў нават па вонкаваму выгляду. «У час вайны,— успамінаў ён,—калі я працаваў на партыйнай рабоце ва Узбекістане, прыйшоў да мяне з просьбай аб дапамозе адзін такі беларус. Адразу я пазнаў у ім сасланага нацдэма, і, зразумела, ніякай дапамогі ён ад мяне не атрымаў». Як бачым, падставай абгрунтаванасці рэпрэсій у Клімава і яго сяброў было так званае класавае пачуццё, а не права.

Аб сваёй на гэты раз ужо канкрэтнай ролі, якую яму давядзецца выконваць у Заходняй Беларусі, Клімаў даведаўся раніцай 15 верасня. Яго выклікалі ў рэспубліканскае НКУС, дзе было паведамлена, што ён прызначаецца галоўным камісарам да спраў наладжвання цывільнай адміністрацыі на «вызваленых» тэрыторыях. Атрымаў ён і неабходныя інструкцыі ў сувязі з новым прызначэннем, а таксама наказ на працягу аднаго дня сфармаваць групу камісараў для паасобных заходнебеларускіх гарадоў. Група складалася з 20 камісараў. Кожны з іх атрымаў афіцэрскі мундзір, але без знакаў адрознення. Апранутыя такім дзіўным спосабам увечары 16 верасня Клімаў і яго людзі рушылі ў дарогу. Кожны з іх атрымаў сваё спецыфічнае заданне. Часцей за ўсё датычыла яно адпаведнага горада ці раёна, але ў некаторых былі і спецыяльныя заданні. Адзін з іх, напрыклад, павінен быў пачаць працу сярод польскіх ваеннапалонных, выявіць сярод іх беларусаў, украінцаў і тых, хто згаджаўся на супрацоўніцтва з новай уладай.

Клімаў прыгадваў, што кожны з яго людзей акрамя агульных матэрыялаў, прысвечаных заходнебеларускаму нацыянальнаму руху, атрымаў у запячатаным канверце два спісы заходнебеларускіх дзеячаў. Адзін пералічаў тых асоб, якія патэнцыяльна падыходзілі на ролю калабарантаў і маглі дапамагчы выявіць тых, хто ў перспектыве мог уяўляць пагрозу для новых парадкаў. Другі складаўся з імёнаў асоб, вядомых сваёй незалежніцкай і антыкамуністычнай дзейнасцю. Падобныя спісы-рэкамендацыі кірункаў масавых рэпрэсій былі распрацаваныя для ўсіх больш-менш вялікіх гарадоў Заходняй Беларусі: для Вільні, Гародні, Брэста, Баранавіч, Маладзечна, Ліды, Вілейкі і іншых.

Сам жа Клімаў з двума памочнікамі накіраваўся ў Вільню, каб асабіста наглядаць за ліквідацыяй незалежнай свабоднай беларускай думкі. Цэнтр беларускасці трэба было знішчыць перш за ўсё.

**Мікола ІВАНОЎ.**

## З ЧУЖЫХ СТАРОНАК

# ЦІ ПАТРЭБНЫ НАМ ВІЗІТ ПАПЫ?

Гістарычныя суадносіны Праваслаўнай царквы з Ватыканам ніколі не былі прыязнымі. Прычынай гэтага была палітыка папаў рымскіх у дачыненні да праваслаўных, якая адкрыта ставіла Рыма-каталіцкую царкву, як царкву мілітарную, гэта значыць, як царкву змаганьня з Праваслаўем. Такая палітыка праводзілася агнём і мячом крыжакоў, сьвятымі інквізіцыямі, подступам езуітаў з іхнім прымусовым наварачваньнем праваслаўных у вунію і т. п. Зразумела, што ў абставінах такой палітыкі не магло быць нейкай прыязьні між цэрквамі і вернікамі.

Надарылася нагода, што толькі за папаў рымскіх: Яна XXIII і Паўла УІ міжцаркоўныя адносіны папраравіліся і гэта да такой ступені, што мажлівыя былі пэрсанальныя кантакты на найвышэйшым узраўні, мэтай якіх мела быць — выясьненьне дагматычных становішчаў.

Аднак-жа суадносіны гэтыя цяпер паступова вяртаюцца да папярэдняга стану. Ці прычынай гэтага ёсьць палітыка папы Яна Паўла II, ці спрыяльныя абставіны данага часу, пакажа недалёкі час, але наступ на Праваслаўе пачаўся зноў.

Патрыярх Маскоўскі Аляксей II у канцы кастрычніка мінулага году наведаў Англію. Ангельская газэта «Ды Дэйлі Тэлеграф» за 31 кастрычніка 1991 году піша, што Патрыярх на прэс-канфэрэнцыі ў Ламбэдзь палацы асьведчыў, што Рыма-каталіцкая царква зламала дагавор аб не празэлітацыі вернікаў Праваслаўнай царквы і што «Рыма-каталіцкая царква шукае наваротвальнікаў ад заходняй Украіны да найдальшых усходніх засягаў былога Савецкага Саюза».

Газэта піша, што Патрыярх выказаў сваё незадавальненьне тым, што папа сакрэтна вызначыў каталіцкага архіепіскапа Масквы.

На запытаньне карэспандэнтаў аб мажлівасьці папы наведаць Савецкі Саюз Патрыярх адказаў: «Покуль нашыя суадносіны з Рыма-каталіцкаю царквою ня будуць нанава ўсталяваныя, я лічу, што папскі візіт ня ёсьць пажаданы».

І сапраўды, гэта можа наступіць, што ў цяперашняй атмасфэры суадносін такі візіт ня можа прынесьці ніякай карысьці, толькі завострыць канфрантацыю.

Калі рэлігійную канфрантацыю ў Галіччыне можна было-б элімінаваць, як рэгіёнальны нацыянальны канфлікт, то гэтага немагчыма зрабіць з місіянерскаю празэлітацыйнаю дзейнасьцю на Сібіры ці ў глыбіні Расеі.

Тут-жа нельга забыць і аб нашай Бацькаўшчыне Беларусі, краіне безупыннага канфлікту.

У гэтым няўміручым наступе рыма-каталіцызму на Усход ясна праяўляецца і тая вуніяцкая місіянерская дзейнасьць на нашай беларускай ніве. У сваім грандыёзным маштабе гэта нічога іншага, як зьнішчэньне нашай веры, у якой была ахрышчана нашая краіна, і робіцца гэта над намі пры помачы нацыянальнай афарбоўкі.

Наш народ пачаў толькі адраджацца і пачаў рабіць першыя нясьмелыя крокі да самастойнасьці. Наша Царква пачала падымацца з руіны бязбожжа, і ўжо на яе рынуліся сілы раздору.

Мы — беларусы, ці мы праваслаўныя, ці каталікі або іншыя, калі мы верныя сыны сваёй Бацькаўшчыны-Беларусі, павінны памятаць, што празэлітызм, як канфрантацыйны дзейнік, разьбівае еднасьць народу, і таму нам ня трэба адзін другога наварачваць. Нам ня трэба штучнай вуніі. Мы не павінны давесьці наш народ да такога стану нянавісьці, які цяпер запанаваў у Галіччыне.

Калі гэтага не разумее папа рымскі і яго пасланцы-апосталы, якія хітрыкамі і подступамі імкнуцца накінуць сваю ўладу, то нам, праваслаўным, абавязкава ўсьведаміць гэта, каб даць адпор.

Патрыярх Румыніі Тэоктыст разаслаў адозву да ўсіх зьверхнікаў Праваслаўнай царквы на сьвеце, у якой заклікае да «поўнага разрыву тэалагічнага дыялогу з Рымам на час пантыфікату Яна Паўла II, які спрыяе вуніяцкаму празэлітызму, так званай экспансіі каталіцызму са шкодай для праваслаўя ва Усходняй Эўропе».

Так гэта сёньня выглядаюць адносіны паміж Усходняй і Заходняй Хрысьціянскімі цэрквамі.

**Юры ВЕСЯЛКОЎСКІ,**
*(«Голас часу», Лондан).*

## ...ПАКУЛЬ БУДУЦЬ ЛЮДЗІ

# МАЕ ЎРАЖАНЬНІ З ПАБЫТУ НА БЕЛАРУСІ

Атраснуўшыся ўрэшце ад пылу грузавых машын і аўтобусаў, яны бестурботна драмалі аб лепшым заўтры, так як дрэмлюць і людзі. Каля шашы, нейкіх сто мэтраў ад нашага будынку, час ад часу па дарозе праходзіла маладая пара, трымаючыся за рукі,— пэўна вяртаючыся з пагулянкі. А я стаяў далей на вэрандзе і без канца ўглядаўся ў гэтае цудоўнае неба, як быццам-бы нечага шукаў, але ня ведаў чаго. Яшчэ адна пара прамінула наш будынак і вольным крокам павярнула ў той бок, дзе калісьці стаяла Гандлёвая школа. Гэтым разам і я пакрочыў усьлед за імі, трымаючы за руку сваю прыгожую студэнтку. Вецер развейваў яе доўгія косы і закрываў яе вочы, і яна элегантным рухам аднэй рукі адкідала іх назад. Як і калісь, мы падыходзілі да таго месца, дзе заўсёды разьвіталіся — да заўтрашняга дня. Але гэтым разам неяк хацелася, каб дарожка працягнулася, каб ёй не было канца. Ды вось ужо і чыгуначны масток, дзе крыжуюцца дарогі. Мы спыніліся. Я, як ніколі, углядаўся ў яе сінія вочы і хацеў ёй нешта сказаць, але не хапала слоў. Замест, я яшчэ мацней пацінуў яе руку, і быццам-бы ў адказ яна прытулілася бліжэй да мяне. Пульс яе біўся мацней, і я мог чуць рытм яе сэрца. Раптам нашы вусны зьліліся, і я адчуў цеплыню яе цела. Пасьля мы сталі моўчкі праз некалькі хвілін і ўглядаліся адзін у другога вочы. Урэшце я здолеў вымавіць: «Бывай! Але я вярнуся!» І яшчэ раз пацалаваў яе прагныя, мяккія вусны. У яе прыгожых, але гэтым разам сумных вачах заблішчэлі сьлёзы. Яна выцірала іх рукою і шэптам маўляла: «Бывай! Буду чакаць!» Прайшоўшы, я аглянуўся назад, а яна стаяла там, махаючы гэтым разам белай хустачкай, і яе словы даляталі, як рэха: «Буду чакаць, буду чакаць».

І хто ведае, мо блізка ці далёка ў гэту жнівеньскую ноч і яна стаіць, як і я, і ўглядаецца ў гэта сіняе неба і мо таксама нечага шукае і ня ведае чаго...

Мая галава яшчэ шумела ад хмелю даўных пацалункаў, і я не пачуў, як ззаду заскрыпелі дзьверы. Цёплая рука абняла мяне за шыю, і мая пляменьніца, быццам чытаючы мае думкі, сказала ціхім, спакойным голасам: «Дык пэўна ўжо яна ня прыйдзе». Узяўшы яе за руку, як калісьці студэнтку, мы ўвайшлі ў пакой, і быццам сам сабе я адказаў: «Ня прыйдзе, мо лепш і ня трэба...»

Вечарам вярнуўся з Маладэчна, мяне сустрэла на панадворку наша суседка і бажылася-клялася, што яна ў поўдні слухала радыё БССР Менск і пазнала мой голас...

На заўтра быў дзень адпачынку, і я пастанавіў адведаць сястру ў вёсцы, дзе я радзіўся, дзе рос, дзе першы раз таптаў так ведамую сьцежку, ходзячы ў пачатковую школу, дзе ўлетку купаўся або вудачкай лавіў рыбу ў дрымучых водах невялікай рэчкі, дзе зімою коўзаўся на лёдзе, дзе катаўся на санках ці лыжах або ў валёнках таптаўся па завеяных пад будынкамі гурбаў сьнегу...

У Маладэчне кожнага дня можна было адведаць нешта новае, цікавае, наведаць бібліятэку, музей, Дом культуры або проста даць адпачынак думкам і палюбавацца паркам, які пачынаўся перад нашым домам і бег на некалькі кіламэтраў у кожным напрамку.





Маладзечна. Новы мікрараён ля завода парашковай маталургіі; плошча імя Леніна. Фота В. СТАВЕРА.

Заканчэнне.
Пачатак у № 5.

Людзі Маладэчна вельмі гасьцінныя, дабрадушныя, і памяць аб іх у мяне астанецца надоўга. Нягледзячы на штодзённыя недахопы ў магазынах, яны вясёлыя і жартаўлівыя. Адно, што найдаўжэй застанецца ў маёй памяці, гэта вечар, калі чатырнаццацігадовая дзяўчына — дачка маёй пляменьніцы запрапанавала паказаць мне адзін з прыгожых паркаў, з рознымі разрыўкамі і гульнямі для дзяцей. Спацыруючы з ёю, я заўважыў, што амаль кожны праходжы прыглядаўся, што гэта такое ў мяне на кашулі. Я дзеля цікавасьці спытаў сваю праваднічку, можа было б лепш для яе, калі б я зьняў і палажыў у кішэню Пагоню. Яна крыху скрыўджаным позіркам глянула на мяне і адказала: «Дзядзя, тым, чым гардзіцеся вы, тым самым гарджуся і я». Былі гэта найпрыгажэйшыя для мяне словы на працягу майго пабыту на Беларусі. І яны застануцца ў маёй памяці так доўга, як доўга буду жыць я.

На працягу чатырох тыдняў майго пабыту ў роднай мясьціне, ня толькі мае родныя, але і іх суседзі як-бы «пераключыліся» і пачалі гаварыць ня толькі да мяне, але і між сабою на сваёй роднай беларускай мове. Жонка майго пляменьніка, якая працуе тэхнікам на найбольшым заводзе ў Маладэчне (5 тысяч рабочых, амаль усе жанчыны), расказвала, што аднойчы дырэктар завода спыніў яе і спытаўся, што з ёю сталася, што яна ня так гаворыць, як калісь?

У апошнім тыдні свайго пабыту я меў вялікі гонар спаткацца і пагутарыць з Г. А. Кахаsuccа... ханоўскім, ведамым на ўсю Беларусь, які падарыў мне кнігу «Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX ст.ст.». Унізе віднее яго ўласнаручны подпіс — «Паважанаму Алесю Гатковічу з прыемнасьцю — у час сустрэчы ў Маладзечне 21 жніўня 1989 г.»

Наступнага вечара я таксама быў вельмі рады спаткаць і пагутарыць з другім добра ведамым навукоўцам ня толькі на Беларусі, але за яе межамі — М. Е. Ермаловічам. Ён таксама на разьвітаньне падарыў мне з уласнаручным подпісам яго выданьне — «Па сьлядох аднаго міфа». Яго гістарычныя нарысы, апублікаваныя ў месячніку «Маладосьць», «Старажытная Беларусь», ня толькі цікавыя зьместам, але старадаўнімі манюмэнтамі, палацамі, гэрбамі і фотаздымкамі нашага Вялікага княства Літоўскага і яго князёў.

Гэта кніжка выклікала захапленьне сярод чытачоў, і паштовая скрынка ў рэдакцыю была перапоўнена лістамі. Адзін з чытачоў пісаў у рэдакцыю «Маладосьць» № 10/88, заканчваючы словамі: «Гэта кніжка, гэта сапраўднае сьвята для ўсіх, хто шануе родную гісторыю, родную мінуўшчыну». Я атрымаў шмат падаркаў у форме літаратуры і ад іншых маладых паэтаў, пісьменьнікаў, студэнтаў, мастакоў, безумоўна ад Міхася — кіраўніка «Беларускай Хаткі».

Два дні перад маім ад'ездам у «Беларускай Хатцы» адбылася зборка актыву (каля 30 асоб), каб выбраць часовае кіраўніцтва для падрыхтоўкі агульнага зьезду «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны». На гэтую зборку быў запрошаны і я. З вялікай цікавасьцю я прыглядаўся і прыслухоўваўся, з якім энтузіязмам беларуская моладзь падыходзіць да кожнай справы адносна беларускага адраджэньня, сваёй роднай мовы, літаратуры, мастацтва.

Пасьля заканчэньня афіцыйна-фармальных спраў я, як госьць і былы выхаванец Маладэчна, быў запрошаны сказаць слова і выказаць свае погляды аб тым, што я бачыў на Беларусі ў часе свайго кароткага пабыту. Паколькі гэтая зборка была прысьвечана беларускай мове, я пачаў словамі Я. Купалы, зазначаючы, што ён мне даруе, калі я зьмяню яго адно слова, і я пачаў: «Не пагаснуць зоркі ў небе, пакуль неба будзе, не загіне наша мова, пакуль будуць людзі». Наша мова, наша літаратура, наша мастацтва ніколі не загіне — працягваў я, бо якраз такімі людзьмі зьяўляецеся вы і шмат іншых, як вы, у кожнай малой ці вялікай вёсцы, у кожным мястэчку, ва ўсіх гарадох Беларусі. На вашых плячах вялікі цяжар, вялікая адказнасьць перад беларускім народам. Ад вас і толькі ад вас будзе залежаць, у якім напрамку будзе ўзгадавана нашая беларуская моладзь. Кожны з нас ведае, што толькі на добра заараной глебе можа ўзысьці маладая рунь. Але я ў гэтым перакананы, і ў гэта я веру, што гэты абавязак вы выканаеце. Калі сотні год таму назад беларуская маці-сялянка змагла перахаваць гэту мову і перадаць наступнаму пакаленьню, толькі пяючы песьню ў беларускай мове над калыскай свайго дзіцяці, дык сёньня, маючы свае школы, унівэрсытэты, маючы сваіх выдатных навукоўцаў, паэтаў, пісьменьнікаў, гісторыкаў ды філазофаў, гэтыя запаветы ня толькі змогаце перахаваць і перадаць наступнаму пакаленьню, але перадасьце іх у шмат багацейшай форме. Што гэта ня будзе лёгка, рэч ведамая. Так, як і раней, будуць спробы, каб перашкодзіць, заманіць. А перашкоды і мана былі немалыя. Калі мы вернемся ў нашу мінуўшчыну, дык мы ўбачым, што цэлымі стагодзьдзямі праз нашы землі праходзілі цэлыя полчышчы ваякаў, узброеныя ў панцыры з ног да зубоў, пазней мадэрныя арміі з найнавейшай зброяй. Тут, — як кажа паэт, — схадзіліся плямёны спрэчкі канчаць. І ня раз нішчыўся наш край, ня раз з паверхні зямлі зьнікалі гарады і вёскі, ня раз зарава пажараў залівала нашае неба. І цэлымі стагодзьдзямі стагнаў наш беларускі народ і пад сацыяльным прыгонам, і пад панскім бізуном. Дык нічога дзіўнага, што сягоньня ў Маладэчне, у Менску, у іншых гарадох і мястэчках Беларусі пустыя магазіны, пустыя ў іх паліцы — калейкі без канца за прадуктамі, неабходнымі ў штодзённым жыцьці. Віна ў гэтым не беларусаў. Мы не давялі свой край да такой стагнацыі, да такога эканамічнага залому. Мы не былі гаспадарамі сваёй зямлі — свайго лёсу. Бо ў той час, калі заходнеэўрапейскія дзяржавы, разьвіваючыся ў дэмакратычных умовах, прабівалі дарогі да паляпшэння формаў сацыяльнага жыцьця, наш беларускі народ ад гэтых падзей стаяў здалёк, не дапушчаны да ніякага голасу, а ягоны гістарычны шлях значылі толькі заўчасныя магілы і крыжы. І прайшоўшы гэткі горкі этап, прайшоўшы турмы Картуз Бярозы, прайшоўшы ссылкі далёкай Сібіры і Калымы, не аднаму здавалася б, што з беларускага народу, з беларускай душы не застанецца і сьледу.

Аднак, дзякуючы якраз гэтай любові, дзякуючы гэтым запаветам, якія мы атрымалі ў спадчыне, якія мы ўрачыста з году ў год абыходзім, сьвяткуем, наладжваем п'есы, пастаноўкі аб нашых героях-змагарох,—мы як народ не заламаліся і не заломімся. І згодна народнай пасловіцы «сьледам за дзедам» цягнецца неразрыўная ніць нацыянальнага жыцьця, што і з'яўляецца найлепшай зарукай няўміручасьці нашага народу. З улоньня аднаго пакаленьня прыйдзе другое, і гэтых натуральна-нацыянальных традыцыяў не парваць ніякім сілам. Будзе жыць наш народ, будзе жыць наша мова. І на заканчэньне яшчэ раз я паўтарыў словы Янкі Купалы: «Не пагаснуць зоркі ў небе...»

Пасьля зборкі я сустрэў некалькі сяброў з маладых гадоў з Гандлёвае школы ў Маладэчне. Было шмат гутарак, але, на вялікі жаль, на гэта не было шмат часу. Мне трэба было разьвітвацца і зьбірацца ў паваротную дарогу. Паціскаючы рукі, у мяне і ў іншых пакаціліся сьлёзы. Сьлёзы радасьці, смутку, разлукі — ня толькі са сваімі роднымі, але з усімі маладэчанскімі хлапцамі, дзяўчатамі і горадам Маладэчна. Праз гэтыя чатыры тыдні я яшчэ раз быў малады, і думкі-ўспаміны не давалі і не даюць супакою цэлымі начамі да сёньняшняга дня.

Цяпер я маю цесную сувязь ня толькі са сваімі кроўнымі, але і іншымі людзьмі, якіх я меў гонар сустрэць у часе свайго кароткага пабыту. Некалькі месяцаў таму назад Міхась, кіраўнік «Беларускай Хаткі», прыслаў мне пісьмо і піша, што ім сумна без мяне і яны часта ўспамінаюць мяне. Далей паведамляе, што агульны зьезд адбыўся вельмі добра. Было прысутных 350 асоб. Сярод іх шмат моладзі. Выбралі Раду ў колькасьці 30 чалавек — двух намесьнікаў і старшыню. Волею лёсу і людзей, піша Міхась, яго выбралі старшынёю. З гэтым віншую цябе, Міхась, а таксама землякі жадаюць табе вялікіх посьпехаў. Я ўпэўнены, што абавязак, узложаны на цябе, ты выканаеш з гонарам, і нам будзе прыемна чуць аб вашай беларускай дзейнасьці.

**Алесь ГАТКОВІЧ.**

Англія.

*Рэдакцыя захоўвае стыль і арфаграфію аўтара.*

# «ЯНЫ ДАРМА ПАВЕРЫЛІ Ў КАЗКУ...»



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**— Я бачу ў вас на стале сярод пэндзляў і фарбаў у дзіўным суседстве чалавечы чэрап і, здаецца, злепак з пасмяротнай маскі Леніна. Як вы ставіцеся да яго асобы!**

— Гэты чалавек—злачынца. Такое маё глыбокае перакананне. Злы геній XX стагоддзя. Ён з лёгкасцю распараджаўся чалавечымі лёсамі: «Страляць! Страляць! Страляць!» Гэта быў неверагодна жорсткі чалавек, амаральны. Сёння мы ведаем надзвычай многа пра яго. Праўда, у мяне вялікіх ілюзій не было і тады, калі імя Леніна было свяшчэнным для большасці савецкіх людзей. Я паспрабаваў паказаць сваё разуменне асобы правадыра ў рабоце «Аднадушша». Афіцыйныя ідэолагі адразу заўважылі вальнадумства, адступленні ў трактоўцы «светлага» вобраза. Мяне пасля гэтага неаднойчы выклікалі для гутарак і папярэдзілі, што пры такім стаўленні да камуністычных святынь я ўвогуле магу пазбавіцца магчымасці працаваць, займацца мастацтвам.

**— Скажыце, якія пачуцці перажылі вы 19 жніўня 1991 года, калі даведаліся, што ў Маскву ўвайшлі танкі!**

— Мне, чалавеку, які перажыў вайну, ды і ў мірны час усякае бачыў, адразу было ўсё зразумелым: зноў пачнуць страляць, саджаць... Увогуле, які гэта путч па захопу ўлады? Камуністы паміж сабой пасварыліся, бойка паміж сваімі. А ўсё астатняе — лухта. Я тады пачаў пісаць карціну. Яна, дарэчы, ужо завершана.

На карціне гэтай тварам да гледача ў цяжкім задуменні сядзіць немалады чалавек. А перад ім на стале ляжыць чалавечы чэрап. Жыццё і смерць... Вечныя пытанні. Прадчуваннем цяжкіх выпрабаванняў, я б сказала, навеяны гэты сюжэт і атмасферай трывогі і нестабільнасці ў грамадстве, дзе людзі ніяк не могуць знайсці выйсця з тупіка, дзе ніхто нікому не патрэбны, а чалавечае жыццё зусім абясцэнілася.

**— Як мастак, вы даволі часта звяртаецеся да біблейскіх сюжэтаў. Нядаўняя ваша карціна мае назву—«Выгнанне з раю». Адным кампазіцыйным пластом яе з'яўляюцца выгнаннікі за вароты раю, а другім—канцэнтрацыйныя лагеры... А на гэтай рабоце, што зараз бачу, Адам і Ева зусім юныя, яшчэ ў райскім садзе. Ёсць і работа «Без вестак прапаўшыя», дзе выкарыстаны вобраз Тройцы... Што для вас Вечная кніга! Ці верыце вы ў Бога!**

— Ці веру? Я над гэтым не задумваўся... А што датычыцца Бібліі, то я лічу яе выдатным творам чалавецтва, дзе сабраны веды і вопыт многіх пакаленняў людзей. Сапраўды, гэта Вечная кніга. Яна дае мне магчымасць асэнсоўваць прычыны маральнай дэградацыі чалавека з развіццём прагрэсу і цывілізацыі.

Паводле падання, Бог выгнаў з раю Адама і Еву за свавольства, чым паказаў сваю сілу і магутнасць. Спакусай для людзей стала сама магчымасць праяўлення сваёй магутнасці. Калі людзі пачынаюць паказваць і скарыстоўваць сваю магутнасць, сілу над іншымі людзьмі,—атрымліваецца канцлагер.

**— Як вам зараз увогуле працуецца!**

— Шмат пішу. Больш за дзесятак работ стаіць у майстэрні, якія не бачыў глядач. Шкада. Але я іх не буду прадаваць, хаця зараз і цяжка. Аднойчы мяне ўгаварылі, маўляў, зрабі пару работ, пейзажык такі бязвінны, ды партрэцік, каб людзям на радасць. Напісаў вось гэтых «Купальшчыц» і «Пейзаж». Як я ні стараўся, але светлага і радаснага пейзажа, які мог бы ўпрыгожыць шыкоўную кватэру сучаснага бізнесмена, не атрымалася. Наадварот, пейзаж гэты, як вы бачыце, выклікае трывогу. Сонца села, і лес ўдалечыні чорнай сцяной. Зласесныя чорныя хмары амаль зацягнулі такое светлае днём неба. Ну і купальшчыцы таксама зусім не тыя цыбатыя эратычныя дзяўчаткі, якіх мы бачым на недарэчных у такі час конкурсах прыгажосці...

**— Адзін вядомы журналіст, народны дэпутат, на пытанне, як ён ставіцца да таго перыяду, які мы завём зараз «застоем», не крывячы душой сказаў, што на некалькі дзён хацеў бы апынуцца ў тым часе. А вы!**

— Мы цяпер не маем ніякіх прынцыповых змен у сваім жыцці, таму што ў нас існуе дзяржаўны капіталізм. А наконт маіх адносін да былога нашага: жыццё было кепскае. А цяпер яшчэ горш. Мяркую, што будзе даволі доўга зусім кепска. Увогуле, у свеце адбываюцца складаныя працэсы. Разыгрываецца карта Еўра-Азіі. Амерыканцы хацелі б бачыць тут усё на амерыканскі капыл. Экспансія амерыканскага ладу жыцця даўно ўжо пачалася, не сёння... З поспехам ішла ліквідацыя народных традыцый, разнацыянальванне народаў, расчалавечванне чалавека і стварэнне чалавека-спажыўца. Але не ўсе падтрымліваюць такі шлях. У Еўропе, напрыклад, жыццё складвалася адпаведна нацыянальным традыцыям і культуры. У Расіі таксама, дарэчы. Еўрапейскія дзяржавы, у сваю чаргу, імкнуцца супрацьстаяць амерыканізацыі былога СССР. Амерыканцы, у сваю чаргу, не разлічвалі, што распадзецца такі маналіт, як СССР. Яны хацелі мець праз Расію ўплыў на ўвесь азіяцкі мацярык. Нездарма ж прыязджаў такі разгублены Бейкер... Азіяцкія рэспублікі пачалі «расхопліваць» Японія і Кітай. Што з усяго гэтага будзе, не ведаю. Працэсы ідуць, ніяк не ўлічваючы інтарэсы асобнага чалавека. Хаця для камуністаў увогуле ніколі не існавалі людзі. Вось такія мае даволі сумныя разважанні ў сувязі з тымі падзеямі, што адбываюцца ў свеце.

**— Так, цяпер вельмі жорсткі час. Многія адчуваюць сябе падманутымі, расчараванымі, духоўна зламанымі, спустошанымі...**

— Больш таго, яны адчуваюць сябе непатрэбнымі. Такія былі мэты, і яны ажыццёўлены з бляскам. Прыгадайце сакрэтны дакумент народнага камісара Леніна, у якім прадпісвалася вынішчыць святароў. А царква мела вялікі ўплыў на чалавека, з дзяцінства і да старасці вяла яго па жыцці, выхоўвала яго духоўныя якасці—норавы і мараль. Калі нехта тыдзень-другі не быў на споведзі, яму ўказвалася на гэта. Не ўпускалі з віду ніводнага чалавека. Цяпер жа што? Мы атрымалі цалкам за ўсё здзейсненае бальшавікамі. За тое, што паверылі ў казку, у сацыялізм.

**— У нас атрымалася такая песімістычная гутарка... Ну проста кладзіся ў труну і памірай.**

— Чаму? Гэта проста жыццё зараз такое. Але нам трэба ў імя сваіх нашчадкаў выжыць фізічна, адрадзіць у сваіх душах спагадлівасць, міласэрнасць і дабрыню. У імя гэтага я і трымаю ў руках пэндзаль.

**Гутарыла Таццяна АНТОНАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: Міхаіл САВІЦКІ ў сваёй майстэрні.**

**Фота В. СТАВЕРА.**







# ЗАХАВАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ДУХУ

## ПАЭТУ ЭДУАРДУ ВАЙВАДЗІШУ 95 ГАДОЎ

**З вершамі Эдуарда ВАЙВАДЗІША, паэта з беларускага Наддзвіння ў Латвіі, чытачы «Голасу Радзімы» ўжо знаёмы па публікацыі ад 11 студзеня 1990 года. Сёлета, 5 лютага, спаўняецца былому беларускаму настаўніку з-пад Індры 95 гадоў. На гэты раз ён прапанаваў рэдакцыі ўрывак са сваёй паэмы «Ундзіна» і невялічкі ўспамін аб сваёй настаўніцкай дзейнасці.**

**С. ПАНІЗНІК**

### УНДЗІНА
### (ЛЕГЕНДА)

I.

Ізноў гляджу на ручаінку
Сярод карэньняў чахлых дрэў:
Штургае з боку ў бок расьлінку,
Кідае пену на сугрэў.
Мае прачнуліся ўспаміны
Далёкай сівізны жыцьця...
Мо шчасьця роднае краіны
Пачатак тут або працяг!
Ты хочаш, ручаёк, вадзіцай
Вазёрны іл хутчэй размыць
І стаць мінулага крыніцай,
Легендай у народзе жыць!

II.

Калісь стаялі там будовы
Зусім паблізу ручайка:
Абапал хвоі, лес дубовы
І цэлы шэраг хмызьняка.

Далей над возерам раўніна,
Шляхоцкі дом, веранда ў сад,
Паўвостраў, сенажаць, лагчына
І цэлы сьцяг дваровых хат.

Паводдаль панскага палаца
На беразе крутым —касьцёл,
Дзе мог маліцца і схавацца
Наш люд у час рабунку сёл.
Шырокай стужкай роў цягнуўся
Уздоўж паўвострава высот:
Паўкругам з возерам
самкнуўся—
У трудны час схаваць народ.

Такі (як кажуць) двор
Даўгова
Стаяў паводдаль ад дарог;
Людзей працоўных меў
нямнога,
А жыў багата, без трывог.

III.

Зямля ўраджайная Даўгова
Давала збожжа, буракі,
Каноплю, лён і бульбы многа:
Дабро чуць лезла у такі.
Ў лясах зьвяроў было даволі:
Мядзьведзяў, зайцаў,
барсукоў...
Іх нават бачылі у полі
Заможных нашых мужыкоў.
Ваўкі, як быццам па загаду,
Паблізу, недзе у кустах,
Заводзяць дружна серэнаду:
Наводзяць сум, нуду і страх.
Якія водныя прасторы!
Наловіш процьму шчупакоў:
Як лапці, ракі лезьлі ў норы,
Ў бучы і сеці рыбакоў.
Ў лясах грыбоў і ягад многа:
У кошык хутка набярэш—
Па смаку, колеру любога...
І чуць да хаты данясеш.
А колькі ў лесе розных
птушак!
Цяцерак, курачак, шпакоў...
Бяз ліку камароў і мушак:
Яны лятуць з усіх бакоў.

Ў дуплянках ліп, ялін і сосен
Пудамі браў янтарны мёд
Пчаляр з вулей сваіх пад
восень—
Лічы амаль што кожны год.

IV.

Жыцьцё ў дварох людзей
кіпела,
Бы ў ручайку вясной вада.
Рабілася ўсё чэсна, ўмела,
І не трывожыла бяда.
Багатая зямля дарыла
За працу добры, шчыры лад;
Усім на сэрцы было міла,—
А гэта ёсьць найлепшы клад.
Вясёла моладзі на сьвяты,
Калі гуляньне у двары:
Для ўсіх рабіўся стол багаты,
Гульня гудзела да зары.
Бацькі частуюцца застольна
(яны мядова піва п'юць).
Усім вясёла і прывольна,
Усе гамоняць і пяюць...

**Эдвард ВАЙВАДЗІШ.**

# ГІСТОРЫЯ ВАЙВАДСКАЙ ШКОЛЫ

Вайвадская школа была адчынена ў 1908 годзе пры вёсцы Вайвады пад назовай: «Вторая Придруйская начальная школа». Першым настаўнікам быў Шаблінскі. Вучоба была на расейскай мове, лік вучняў 40—50.

У 1921 годзе ў школе пачынае з'яўляцца беларуская мова пад кіраўніцтвам настаўніка Антона Мураўёва, які раней працаваў у «Первой Придруйской школе» ў мястэчку Прыдруйску. З 1922 па 1930 год у школе працуюць настаўнікамі Дубавік з жонкай, а пасля яго сьмерці і выезда сям'і ў Расею дзвінскі павятовы школьны аддзел пасылае мяне кіраўніком школы, а жонку настаўніка Мірановіча (латышку) — для выкладаньня латышскай мовы. Цяпер школа стала называцца так: «Вайвадская 6-классная основная школа». Яна пачынае расьці і сярод беларусаў здабываць папулярнасьць. Лік вучняў павялічваецца да 150, а ў 5-х і 6-х клясах — удвайне. Але нягледзячы на лік вучняў, чацьвёртага настаўніка нам не дае школьны аддзел. І каб наладзіць нармальную працу ў школе, педагагічная рада школы пастанаўляе: кожны месяц ад зарплаты настаўнікаў адлічываць 10 працэнтаў у фонд сродкаў для найму чацьвёртага настаўніка—беларуса. Пастанова мела поспех—у школе з'явіўся прыватны настаўнік—Франц Оруб. Стала лягчэй працаваць, і зьявілася магчымасьць больш выдзяляць увагі грамадскай справе сярод беларускага насельніцтва.

Нягледзячы на шавіністычны ўціск, які пачаўся з 30-х гадоў, школа расла і мела прыхільнасьць ня толькі сярод беларусаў, але і беларускіх настаўнікаў, якія прысылалі сваіх вучняў. Вучняў у 5-ю клясу прысылалі й Пустынскія школы — Іёнінская і Плейкаўская. Вучняў-выпускнікоў лік падвоіўся. Для павелічэньня грашовага фонда школа рабіла спектаклі, вечарынкі й латарэю. У школе адбываліся і зборы культурна-асьветных таварыстваў.

Школа працавала нармальна аж да прыхода ўлады Ульманіса, калі латышскі шавінізм распачаў моцны ўціск усіх нелатышскіх устаноў. Мяне звольнілі з кіраўніка Вайвадскае школы і паслалі ў Пустыншчыну—у Плейкаўскую пачатковую школу за 12 кіламетраў ад майго дома і сям'і. У Вайвадскую беларускую шасцігодку назначылі кіраўніком латыша Паберза, які школу пераводзіць на латышскі лад і мяняе яе назву: замест «Вайвадская» — «Эзэрніеку паматскола».

У 1936 годзе большасьць беларускіх настаўнікаў была звольнена—на пенсію. Быў звольнены і я. Латвійскі ўрад для мясцовага насельніцтва пабудаваў на Індры і Гаравых вялікія школы й стварыў для беларускага насельніцтва ўмовы дэнацыяналізацыі. Толькі ў 1940 годзе беларускія школы аднавілі сваю працу.



У 1940 годзе я быў назначаны дырэктарам Вайвадскае 7-гадовае беларускай школы, у якой працаваў да 1 лютага 1941 года, а да пачатку нямецкай акупацыі быў інспектарам Дзьвінскага школьнага аддзела па Краслаўскаму і Дагдскаму раёнах. Пасьля мяне дырэктарам Вайвадскае беларускае школы была назначана настаўніца Вольга Мдзалеўская.

Вялікая сусьветная вайна зьнішчыла большасьць беларускіх школ, а ўклад жыцьця палажыў сваю лапу і на беларускую мову ў Латвіі. У 1949 годзе пачалі ствараццa калгасы, а насельніцтва разбягацца ў гарады. Вёскі пусьцелі. Лік вучняў зменьшыўся ў два разы. Малыя школы перасталі існаваць, а дзеці былі змушаны вучыцца ў Індраўскай і Прыдруйскай—рускіх школах...

**Настаўнік-пенсіянер**
**Э. Л. ВАЙВАДЗІШ.**
(Латвія).

**НА ЗДЫМКУ: Э. ВАЙВАДЗІШ (у цэнтры). 1931 г.**

# СЛЫННЫ ДУДАР

Многія вёскі Міншчыны славяцца слыннымі земляками-літаратарамі. Вязынка дала Купалу, Мікалаеўшчына — Коласа, Цімкавічы — Кузьму Чорнага. У Ракуцёўшчыне некаторы час жыў Максім Багдановіч. А жыхары Валожынскага раёна ганарацца, што ў іх невялікай вёсачцы Люцінка пачыналася творчая дзейнасць стваральніка беларускага тэатра, перакладчыка, публіцыста і асветніка В. Дуніна-Марцінкевіча.

Менавіта тут ён стварыў лібрэта шматлікіх музычных вадэвіляў і першую беларускую оперу «Сялянка».

Ды гістарычна склалася так, што літаратурная дзейнасць В. Дуніна-Марцінкевіча была мала даследавана. За гэту справу ўзяўся літаратуразнавец Язэп Янушкевіч, зямляк драматурга. Ён наведаў архівы многіх гарадоў, рукапісныя схоўні бібліятэк краіны. І як вынік — кніга «Беларускі дудар», якая нядаўна ўбачыла свет у выдавецтве «Навука і тэхніка». Аўтар выдання творчую спадчыну пісьменніка разглядае ў цеснай сувязі з эпохай на фоне агульнаславянскага літаратурнага працэсу ў перыяд адраджэння, што быў характэрны для большасці славянскіх краін у XIX стагоддзі. На канкрэтных прыкладах паказана станаўленне пісьменніка-дэмакрата, які патрабаваў павагі да селяніна і ўзнімаўся да ўзроўню перадавых людзей свайго часу. Разглядаецца ўсё гэта ў цесным кантэксце агульнаславянскага літаратурнага развіцця. З мэтай больш глыбокага раскрыцця традыцый і ўплываў у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча выкарыстаны творы польскай, рускай, украінскай, балгарскай, славацкай, чэшскай літаратур, а таксама дакументы пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка, знойдзеныя ў апошнія дзесяцігоддзі беларускімі даследчыкамі С. Александровічам, Г. Кісялёвым, А. Мальдзісам, М. Маляўкам і інш. У выданні выкарыстаны маловядомыя артыкулы, лісты, успаміны сучаснікаў жыхара Люцінкі.

Кніга «Беларускі дудар» разлічана на чытачоў, якія цікавяцца першапачынальнікамі беларускай літаратуры, праблемамі адраджэння нацыянальнай культуры.

**І. ПЯТКЕВІЧ.**

# АКТУАЛЬНАЕ Ў ПРЭСЕ

29 студзеня газета «Звязда» змясціла на сваіх старонках праект новага Закона «Аб ахове і зберажэнні гісторыка-культурнай спадчыны» і зварот да чытачоў яго аўтараў — Д. Бубноўскага, начальніка Дзяржаўнай інспекцыі па ахове помнікаў гісторыі і культуры Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, і М. Сатолінай, кандыдата юрыдычных навук, навуковага супрацоўніка Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. Шматнацыянальнаму народу Беларусі няма прычыны саромецца, а тым больш цурацца сваёй гісторыка-культурнай спадчыны, пішацца ў звароце. Пазбаўленыя ўвагі, дасягненні матэрыяльнай і духоўнай культуры нашых продкаў беззваротна гінуць. Іх адсутнасць стварае ў грамадстве своеасаблівы вакуум, які запаўняецца культурнымі дасягненнямі іншых народаў, прычым часцей за ўсё не лепшымі іх узорамі.

Разарваць заганнае кола разлажэння грамадства, духоўнай дэградацыі кожнага з яго членаў — святы абавязак нашага і будучых пакаленняў. Неабходнасць гэтага падказвае нават інстынкт самазахавання. Адным з першых істотных крокаў у гэтым напрамку, на наш погляд, павінна з'явіцца стварэнне належнай прававой базы, якая б надзейна забяспечыла захаванне і стварыла спрыяльныя ўмовы да памнажэння нашага агульнага найкаштоўнейшага скарбу — гісторыка-культурнай спадчыны. Гэтага ж патрабуе і прыняты грамадствам курс на ператварэнне нашай краіны ў сапраўды прававую дзяржаву.

Асноўнай жа мэтай прапануемага законапраекта з'яўляецца стварэнне ў рэспубліцы такіх грамадска-прававых і эканамічных адносін (праз пэўныя льготы і заахвочванні), пры якіх валодаць гісторыка-культурнай каштоўнасцю, укладваць у яе сродкі, выконваць на ёй метадычна абгрунтаваныя работы будзе матэрыяльна выгадна.

Пры распрацоўцы законапраекта намі выкарыстаны як аналагі адпаведныя законы Польшчы, Югаславіі, іншых усходнееўрапейскіх краін, варыянты праектаў законаў аб помніках, падрыхтаваных у Маскве, у шэрагу рэспублік былога Саюза, падпісаныя і не падпісаныя Беларуссю міжнародныя канвенцыі, пагадненні, хартыі, якія датычаць гісторыка-культурнай спадчыны.

У адрозненне ад існуючага Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры», прапануемы законапраект ахоплівае праблемы не толькі матэрыяльнай, але і духоўнай гісторыка-культурнай спадчыны, упершыню ўводзіць ва ўжытак крытэрыі адбору гісторыка-культурных каштоўнасцей, а таксама — новую сістэму іх класіфікацыі.

Аўтары законапраекта адзначаюць, што яны сустрэліся са значнымі цяжкасцямі, таму што рэгламентацыя правоў і абавязкаў юрыдычных і фізічных асоб у дачыненні да з'яў духоўнай культуры праводзіцца ўпершыню. Гэта акрамя таго, што практыка ўліку і захавання духоўнай спадчыны ў нашай краіне амаль адсутнічае. Менавіта таму вельмі спадзяюцца, што грамадзяне Беларусі, а таксама і тыя, хто жыве за яе межамі, азнаёміўшыся з законапраектам, выкажуць свае парады, прапановы, меркаванні, удакладненні, якія будуць вельмі карыснымі для канчатковай адпрацоўкі ўсіх прадугледжаных законапраектам артыкулаў.

# МАЛЮНКІ СВЕТЛЫХ ЭМОЦЫЙ





— Усе дзеці ў душы мастакі, і перадаваць свае пачуцці і перажыванні ім лягчэй на паперы, — да такога пераканання прыйшоў за 20 гадоў работы ў студыі выяўленчага мастацтва Дома піянераў і школьнікаў Першамайскага раёна Мінска яе кіраўнік Рышард Май. Яго першыя вучні ўжо самі сталі бацькамі. Ёсць сярод іх і тыя, хто так ці інакш звязаў сваё жыццё з мастацтвам.

Але галоўным для мастака заўсёды было навучыць дзяцей спасцігаць разнастайнасць навакольнага свету. Таму так захоплена праходзяць усе яго заняткі, на якіх хлопчыкі і дзяўчынкі з цікавасцю слухаюць музыку і паэзію, чытаюць казкі, выплёскваючы на белыя аркушы паперы свае фантазіі.

Сапраўды, работы вучняў Р. Мая заўсёды надзвычай маляўнічыя, арыгінальныя па выкананню і аранжыроўцы. Гэта малюнкі спакою, светлых эмоцый, душэўнай цеплыні і шчодрасці — якасцей, якія, адзначаюць усе, хто бачыў работы на шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных выстаўках, арганізаваных у Польшчы, Канадзе, Бельгіі, Японіі, Галандыі. Для многіх дзяцей студыя стала другім домам, дзе перажылі яны дзівосныя моманты творчасці. Пройдзе час, і гісторыя паўторыцца зноў. У студыю прыйдуць іншыя дзеці, і ў кожнага з іх будзе ўкладваць сваю душу і імкнуцца развіць іх здольнасці мастак Рышард Май.

НА ЗДЫМКАХ: Рышард МАЙ са сваімі выхаванцамі; малюнак Аксаны РУЖЖО (12 гадоў).

Фота У. ШУБЫ.

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# БЕШАНКОВІЦКІЯ КІРМАШЫ

У беларускай гісторыі кірмашы займалі важнае месца. Назаўсёды ўпісаны Зэльвенскі (Аненскі), Мінскі (Кантрактавы), Васілеўскі ў Гомелі, Хрышчэнскі ў вёсцы Любавічы Аршанскага павета. Яны збіралі купцоў, прадпрымальнікаў, пасрэднікаў з усіх канцоў Беларусі. Да ліку падобных належаў і Петрапаўлаўскі, што кожны год на працягу чатырох тыдняў праходзіў у Бешанковічах — сёння гарадскім пасёлку ў Віцебскай вобласці Рэспублікі Беларусь.

Першы кірмаш на беларускай зямлі прайшоў у 1498 годзе ў старажытным Полацку. Ён даў штуршок развіццю гандлю: стаў абслугоўваць «мясцовы» гандаль Смаленска з Прыбалтыкай. У канцы XVIII стагоддзя гэтая роля перайшла да Бешанковічаў, аднаго з самых прыкметных гандлёвых цэнтраў Беларусі.

Мястэчка здаўна славілася ганчарным рамяством, мылаварэннем, нарыхтоўкай драніцы. Але найбольшую вядомасць Бешанковічам прынеслі кірмашы, якія сталі праводзіцца штогод у чэрвені-ліпені і працягваліся месяц. Сюды з'язджаліся купцы з Мінска і Брэста, Слуцка і Слоніма, Вільні і Рыгі, многіх расійскіх і прыбалтыйскіх гарадоў, мястэчак і вёсак Прыдняпроўя.

Кірмаш, які праводзіўся ў цэнтры мястэчка, назвалі Петрапаўлаўскім. Для купцоў на рыначнай плошчы быў пабудаваны прасторны каменны двор, 60 крам, колькасць якіх год ад года павялічвалася.

Бешанковіцкія кірмашы славіліся мноствам тавараў мясцовай вытворчасці: шарсцяных і льняных тканін, фарфоравага і фаянсавага посуду, залатых і сярэбраных упрыгажэнняў, керамічных саматужных цацак і вырабаў хатняга ўжытку, вырабаў з жалеза і медзі, гароднiны, фруктаў... Майстры і рамеснікі выстаўлялі ганчарныя вырабы, рукавіцы, канаты, драўляныя бочкі. У 1791 годзе кошт тавараў перавысіў адзін мільён польскіх злотых, а продаж—400 тысяч. Лепельскі спраўнік у 1855 годзе склаў ведамасць вынікаў чарговага кірмашу: найбольшым попытам карысталіся льняныя і шаўковыя тканіны, посуд, чай, пушніна, цукар, а таксама коні.

Кірмашы ў Бешанковічах давалі адчувальны даход уладальніку мястэчка магнату І. Храптовічу. Не заставаліся ў пройгрышы і гараджане. Ад здачы ў арэнду дамоў, магазінаў, складоў яны штогод атрымлівалі да чатырох тысяч серабром і больш.

Рамесніцтва, што развівалася на беларускай зямлі, патрабавала пашырэння знешняга гандлю: завозу прадуктаў харчавання, сыравіны, лесаматэрыялаў. Бешанковічы, якія знаходзіліся на перакрыжаванні воднага шляху і сухапутных дарог, адыгрывалі важную ролю ва ўмацаванні сувязей Прыдзвіння з Еўропай. Па Заходнай Дзвіне вывозіліся збожжа, мёд, воск, лес, скуры. У Цэнтральным архіве Літоўскай Рэспублікі захоўваецца кантракт на нарыхтоўку лесу ў Мсціслаўскім павеце і пастаўку на прыстань у Бешанковічы драўніны, які заключыў уладальнік Астроўна з кіраўніком Леанардам Пацеем. Прыстань была пабудавана для складзіравання тавараў перад адпраўкай у Рыгу па Заходняй Дзвіне. Ад Бешанковічаў пачынаўся шлях суднаў, плытоў і баржаў у прыбалтыйскія краіны.

Тут і выгружаліся тавары для продажу на кірмашы, заключаліся кантракты і гандлёвыя здзелкі купцоў з уладальнікамі маёнткаў, пасрэднікамі. Пастаянна на кірмаш прыходзілі жыхары навакольных мястэчкаў і вёсак, каб прадаць, купіць неабходнае для сям'і, для дому, для гаспадаркі. На прыстані наймаліся лоцманы для праводкі суднаў праз дзвінскія парогі.

Гісторыя сведчыць: гандлёвыя сувязі Віцебска і Бешанковічаў з Рыгай і іншымі прыбалтыйскімі гарадамі пастаянна расшыраліся, ахопліваючы ўсе бакі гандлёвага супрацоўніцтва. У апошняе дзесяцігоддзе XVIII стагоддзя штогод па Заходняй Дзвіне праходзіла да 700 суднаў з таварамі. Праз 50 гадоў, у 1848 годзе, ужо прайшло 1 329 суднаў, 310 плытоў з лесам. Агульны кошт перавозімых грузаў склаў у год каля 6 мільёнаў рублёў.

У канцы XVIII і пачатку XIX стагоддзяў сталі вядомыя іншыя кірмашы, у дні работы якіх купцы, прадпрымальнікі, рамеснікі мелі магчымасць прадаць, купіць, заключыць здзелкі. Роля кірмашоў у эканамічным жыцці беларускіх губерняў была вялікай, значэнне іх цяжка пераацаніць.

**Мікалай САЛАЎЁЎ.**

# ПАСЛАННЕ ПРЭЗІДЭНТУ МАК

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч і Старшыня Савета Міністраў РБ В. Кебіч накіравалі пасланне прэзідэнту Міжнароднага алімпійскага камітэта пану Хуану Антоніо Самаранчу з просьбай разгледзець пытанне аб прызнанні нацыянальнага алімпійскага камітэта Рэспублікі Беларусь.

У ім гаворыцца, што ў Беларусі атрымалі развіццё ўсе алімпійскія віды спорту. Усяго ў Гульнях прынялі ўдзел 152 спартсмены рэспублікі, якія заваявалі 123 медалі, з іх 63 залатыя. У 1991 годзе створаны Нацыянальны алімпійскі камітэт Рэспублікі Беларусь, які выказвае прыхільнасць ідэям і каштоўнасцям алімпізму, дзейнічае згодна Алімпійскай хартыі.

# СЦЯГАНОСЕЦ— ІГАР ЖАЛЯЗОЎСКІ

На адкрыцці зімніх Гульняў у Альбервілі права несці сцяг аб'яднанай каманды СНД даверана шматразоваму чэмпіёну свету па каньках Ігару Жалязоўскаму. Толькі гэта будзе не сцяг былога Савецкага Саюза, а Алімпійскі.

Каменціруючы гэты факт, спартыўныя журналісты выказваюць шкадаванне, што ў Альбервілі не будзе сцяга СССР. Фактычна ўся падрыхтоўка нашай зборнай вялася менавіта на базе Савецкага Саюза. І было б больш справядлівым, каб на Гульнях луналі сцягі СССР і МАКа.

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Разыскиваются сестры **Наташа ЛЕОН** и **Оля ВИГНОЛА** (девичья фамилия **ТКАЧУК**). Их дедушка **СЕЛЮН Артемий Сергеевич** проживал в городе Бруклин. Он уехал в США из Белоруссии в 1914 году.

Сестер разыскивает брат **ДРОЗД Александр Николаевич.**

**Его адрес: Республика Беларусь, 222310, Минская обл., г. Молодечно, ул. Я. Купалы, д. 122, кв. 8. ДРОЗДУ Александру Николаевичу.**



**НА СНИМКЕ: Наташа с мужем Александром ЛЕОНОМ.**

**АД РЭДАКЦЫІ.** Па просьбе кліента аб'ява даецца на рускай мове.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.



**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**
**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Заказ № 195.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12